

Жыве Беларусь!

# НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№9(522) 13 студзеня 1993 г. Серада. | Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. | Кошт у розніцу — 4 руб.


# Сумесная беларуска-кітайская заява

Па запрашэнню Старшыні Кітайскай Народнай Рэспублікі Ян Шанкуня Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.С.Шушкевіч нанёс афіцыяльны візіт у Кітайскую Народную Рэспубліку з 8 па 12 студзеня 1993 года.

Адбыліся сустрэчы і перагаворы Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.С.Шушкевіча з Генеральным сакратаром Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Кітая Цзян Цзэмінам, Старшынёй Кітайскай Народнай Рэспублікі Ян Шанкунем, прэм'ерам Дзяржаўнага савета Кітайскай Народнай Рэспублікі Лі Пэнам, старшынёй Пастаяннага камітэта Усекітайскага сходу народных прадстаўнікоў Вань Лі, якія прайшлі ў дружалюбнай, шчырай і дзелавой атмасферы. Былі абмеркаваны стан і перспектывы двухбаковых адносін, а таксама іншыя пытанні, якія прадстаўляюць узаемны інтарэс.

Абодва бакі пагадзіліся заявіць аб наступным:

1. Народы Беларусі і Кітая звязваюць традыцыйныя вузы дружбы. Паміж Рэспублікай Беларусь і Кітайскай Народнай Рэспублікай развіваюцца адносіны ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва. Як дружалюбныя дзяржавы яны імкнуцца развіваць адносіны супрацоўніцтва ў адпаведнасці са статутам Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і на падставе прынцыпаў узаемнай павагі да суверэнітэту і тэрытарыяльнай цэласнасці, узаемнага ненападзення, неўмяшання ва ўнутраныя справы адзін аднаго, роўнасці і ўзаемнай выгады, мірнага суіснавання. Яны выступаюць за вырашэнне спрэчных пытанняў выключна мірнымі сродкамі.

2. Кіраўнікі абедзвюх дзяржаў, іх парламенты, урады, міністэрствы і ведамствы будуць праводзіць рэгулярныя палітычныя кансультацыі ў мэтах развіцця і ўмацавання двухбаковага супрацоўніцтва, а таксама абменьвацца думкамі па пытаннях, якія прадстаўляюць узаемны інтарэс. Прадстаўнікі грамадскіх арганізацый абедзвюх дзяржаў таксама будуць падтрымліваць пастаянныя кантакты.

3. Абодва бакі прыкладуць неабходныя намаганні дзеля далейшага пашырэння і паглыблення доўгатэрміновых узаемавыгадных адносін у палітычнай, эканамічнай, культурнай і іншых галінах. Яны выступаюць за добрасумленнае выкананне прынятых на сябе абавязацельстваў.

4. Эканамічнае супрацоўніцтва і гандаль з'яўляюцца важнай складанай часткай узаемаадносін дзвюх дзяржаў. Абодва бакі заключаць адпаведныя пагадненні і зробяць неабходныя захады, каб забяспечыць развіццё ўзаемавыгадных гандлёва-эканамічных сувязей.

У гэтых мэтах яны:

— даюць адзін аднаму рэжым найбольшага спрыяння ў галіне гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва;

— садзейнічаюць суб'ектам, якія атрымалі права на ўдзел у знешнеэканамічнай дзейнасці, у адкрыцці і дзейнасці іх прадстаўніцтваў на тэрыторыі адзін аднаго ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам;

— развіваюць супрацоўніцтва ў галіне інвестыцый, спрыяюць стварэнню сумесных прадпрыемстваў на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь і Кітая, а таксама садзейнічаюць супрацоўніцтву прадстаўніцтваў суб'ектаў бакоў, якія атрымалі права на ўдзел у знешнеэканамічнай дзейнасці на рынках трэціх краін;

— садзейнічаюць устанаўленню прамых кантактаў паміж рэгіёнамі і прадпрыемствамі абедзвюх дзяржаў, у тым ліку для развіцця тавараабмену на збалансаванай аснове.

5. Бакі будуць садзейнічаць супрацоўніцтву і абмену ў галіне культуры, навукі, адукацыі, спорту і турызму; спрыяць непасрэдным кантактам паміж адпаведнымі арганізацыямі, групамі і прыватнымі асобамі.

У гэтых мэтах яны будуць:

— падтрымліваць супрацоўніцтва паміж навучальнымі ўстановамі, навукова-даследчымі арганізацыямі, уключаючы абмен выкладчыкамі, навуковымі супрацоўнікамі, студэнтамі і аспірантамі, а таксама ажыццяўляць сумесныя навукова-даследчыя праекты;

— супрацоўнічаць у галіне радыёвяшчання, тэлебачання і дзейнасці інфармацыйных агенцтваў, садзейнічаць распаўсюджванню прэсы і аудыявізуальных матэрыялаў адзін аднаго;

— развіваць супрацоўніцтва ў галіне аховы здароўя, санітарыі, гігіены і прафілактыкі розных хвароб.

6. Рэспубліка Беларусь і Кітайская Народная Рэспубліка будуць цесна супрацоўнічаць паміж сабой у галіне аховы навакольнага асяроддзя і рацыянальнага выкарыстання прыродных рэсурсаў, а таксама актыўна ўдзельнічаць у вырашэнні глабальных экалагічных праблем.

Рэспубліка Беларусь з удзячнасцю адзначае ўклад кітайскіх спецыялістаў у мінімізацыю вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС і выказвае надзею, што супрацоўніцтва абедзвюх дзяржаў у гэтай галіне будзе пашырацца і паглыбляцца, у тым ліку і праз каналы Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і іншых міжнародных арганізацый.

7. Бакі будуць развіваць супрацоўніцтва і ажыццяўляць абмен вопытам і інфармацыяй у справе барацьбы з правапарушэннямі, у тым ліку з арганізаванай злачыннасцю, тэрарызмам, незаконным гандлем наркотыкамі, зброяй і культурнымі каштоўнасцямі, эканамічнымі злачынствамі, кантрабандай, незаконнымі актамі, накіраванымі супраць бяспекі грамадзянскай авіяцыі і марскога суднаходства.

8. Рэспубліка Беларусь прызнае, што ўрад Кітайскай Народнай Рэспублікі з'яўляецца адзіным законным урадам, які прадстаўляе ўвесь Кітай, а Тайвань — неад'емная частка тэрыторыі Кітая. Яна пацвярджае, што не будзе ўстанаўліваць з Тайванем афіцыйных адносін.

Кітайская Народная Рэспубліка падтрымлівае намаганні Рэспублікі Беларусь, накіраваныя на абарону нацыянальнай незалежнасці, суверэнітэту, мірнага ўрэгулявання шляхам перагавораў пытанняў, звязаных з этнічнымі тэрыторыямі, развіццё эканомікі.

9. Бакі адзначаюць, што іх пазіцыі па пытаннях міру і развіцця, раззбраення, прадухілення гонкі ўзбраенняў блізкія ці супадаюць. Абедзве дзяржавы будуць і ў далейшым выступаць за ахову міру і стабільнасці ў розных рэгіёнах і ў свеце ў цэлым, а таксама за ўстанаўленне справядлівага міжнароднага палітычнага і эканамічнага парадку ў адпаведнасці з агульнапрызнанымі прынцыпамі і нормамі міжнароднага права.

10. Бакі будуць пашыраць і паглыбляць супрацоўніцтва ў рамках Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Яны выступаюць за забеспячэнне эфектыўнай рэалізацыі мэтаў і прынцыпаў статута ААН, за павышэнне ролі гэтай арганізацыі ў справе аховы міру і ўмацавання бяспекі ва ўсім свеце, уключаючы прадухіленне ўзброеных канфліктаў.

11. Бакі адзначаюць, што кожная дзяржава мае права выбіраць свае грамадскі лад, эканамічную сістэму і шляхі развіцця ў адпаведнасці са сваёй спецыфікай і інтарэсамі. Адрозненні ў гэтых галінах не павінны перашкаджаць нармальным адносінам і супрацоўніцтву паміж дзяржавамі незалежна ад іх велічыні і ступені развіцця.

За Рэспубліку Беларусь
Старшыня Вярхоўнага Савета
Рэспублікі Беларусь
С.ШУШКЕВІЧ.

За Кітайскую Народную
Рэспубліку Старшыня
Кітайскай Народнай
Рэспублікі
ЯН ШАНКУНЬ.

Пекін, 11 студзеня 1993 года.

*Інтэрв'ю на борце самалёта*

## Станіслаў ШУШКЕВІЧ: Поспех візіту ў Кітай перасягнуў усе спадзяванні

**12 студзеня пасля паўдня самалёт з дэлегацыяй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь на чале са Старшынёй парламента Станіславам Шушкевічам, якая на працягу чатырох дзён знаходзілася ў Кітайскай Народнай Рэспубліцы, прызямліўся ў мінскім аэрапорце. Яшчэ на борце самалёта Станіслаў Шушкевіч даў інтэрв'ю карэспандэнтам Белінфарма па выніках візіту. Ён не ўтойваў свайго задавальнення.**

— Пасля распаду Савецкага Саюза для Беларусі было надзвычайна важным захаваць добрыя адносіны з КНР, вялікім кітайскім народам, — сказаў Станіслаў Станіслававіч. — Тым больш што мы бачылі такую ж зацікаўленасць з боку Кітая. Таму не выпадкова Рэспубліка Беларусь пастаралася хутка ўстанавіць дыпламатычныя адносіны з далёкай краінай, садзейнічала адкрыццю кітайскага пасольства ў Мінску. Дарэчы, літаральна праз месяц-другі пачне працаваць і наша пасольства ў КНР.

Сустрэчы на кітайскай зямлі, у час якіх была засведчана павага да Беларусі, разуменне яе ролі, праходзілі на самым высокім узроўні. У дыпламатычным пратаколе лічыцца выключным выпадкам, калі кіраўнік дзяржавы прымае кіраўніка афіцыйнай дэлегацыі ў бальніцы. Старшыня КНР Ян Шанкунь і Станіслаў Шушкевіч гутарылі ў шпіталі.

— Я пераканаўся, што візіт перасягнуў усе спадзяванні, — працягваў далей Станіслаў Станіслававіч. — Важнейшы вывад, які зрабілі для сябе члены дэлегацыі, заключаецца ў тым, што вопыт правядзення рэформ у Кітаі мае надзвычайна важнае значэнне для Беларусі. Гэта вопыт разумнага, паступовага пераўтварэння гаспадаркі і грамадства, у ходзе якога максімальна ўлічваюцца мясцовыя асаблівасці. Мы ў сваіх імкненнях часта спрабуем пераскочыць праз час і цераз сябе, хочам адразу ж стаць падобнымі на дзяржавы, якія ўкараняюць рыначную эканоміку стагоддзямі. Ужо і наш вопыт паказаў, што калі жаданні не спалучаюцца з магчымасцямі, нараджаецца хаос. У Кітаі якраз здолелі спалучыць імкненне да рэформ з гранічным улікам асаблівасцей краіны, традыцый народа.

Два вечары мы ўсей дэлегацыяй абмяркоўвалі, што такое свабодная эканамічная зона. І прыйшлі да даволі супярэчлівага, на першы погляд, вываду — па сутнасці справы ўся Беларусь уяўляе сабой такую зону. Прадпрыемствы, прадпрымальнікі фактычна надзелены ўсімі правамі СЭЗ. Адзінае, трэба вырашыць некаторыя пытанні ліцэнзавання. Але ў Беларусі склалася парадаксальная сітуацыя — у нас можна не развіваць вытворчасць, а мець вельмі вялікія прыбыткі, перапрадаючы дзяржаўныя тавары і іграючы на розніцы курсу валют. Кітайскае кіраўніцтва, відаць, зрабіла больш мудра, першапачаткова прадаставіўшы такія правы вельмі абмежаванаму кругу прадпрыемстваў.

Цяпер мне абсалютна ясна, што нельга ўкараняць нававвядзенні шырокім фронтам. Я быў вельмі засмучаны рашэннем Вярхоўнага Савета, які нядаўна не прыняў законапраект аб свабодных эканамічных зонах у першым чытанні. Цяпер жа я гэтаму нават рады, дакумент мае патрэбу ў канцэптуальнай карэкціроўцы. Шырокамаштабнае ўвядзенне па сваей сутнасці прагрэсіўных мер у непадрыхтаванай дзяржаве не дае карысці. Зразумейце правільна, я не лічу, што мы павінны слепа капіраваць кітайскі вопыт, але і грэбаваць ім ні ў якім разе нельга. У мінулым годзе ў КНР зафіксаваны рост валавога нацыянальнага прадукту на 12 працэнтаў, а за апошнія 14 гадоў сярэдні рост складаў 8—9 працэнтаў штогод. Вопыт розных краін трэба не капіраваць, а сінтэзаваць з яго патрэбныя вывады з улікам сваіх умоў. Дарэчы, у нас адбыліся вельмі цікавыя гутаркі ў ЦК КПК, якія далі магчымасць зрабіць вывад, што кампартыя Кітая змагла ўзначаліць рэформы толькі таму, што рэфарміравалася сама. Яна перастала займацца палітычнымі кампаніямі, а пачала праводзіць канкрэтную работу ў народнай гаспадарцы і грамадстве. Ні ў якіх асноўных дакументах апошняга часу не дэкларуецца той класічны камуністычны падыход, які мы ўвесь час вывучалі і які ідзе ад камуністычнага маніфеста.

Нашы субяседнікі гаварылі, што яны выступаюць за сацыялізм з кітайскай спецыфікай з рознымі формамі ўласнасці і накіраваны на дабрабыт народа.

У час візіту была падпісана сумесная кітайска-беларуская заява і яшчэ шэсць дакументаў па гуманітарнаму і эканамічнаму развіццю. Дарэчы, на гэты раз афіцыйная дыпламатыя ішла поруч з народнай. На адным самалёце разам з парламенцкай ляцелі яшчэ некалькі дэлегацый. Адна з іх — Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі. Яна падпісала пагадненні ў правінцыі Сычуань.

Адначасова ў Кітаі пабывалі прадстаўнікі прамысловых і аграрных колаў Беларусі. Падпісаныя дакументы прадугледжваюць актыўны абмен вопытам, тэхналогіямі, таварамі...

Наведала КНР і дэлегацыя Белінфарма. Вырашана пачаць рэгулярны абмен інфармацыяй. Кітай сапраўды становіцца бліжэй. А думку кіраўніка парламента аб тым, што вынікі візіту перасягнулі спадзяванні, падзялілі ўсе — і палітыкі, і гаспадарнікі, і журналісты.

Якаў АЛЯКСЕЙЧЫК,
Уладзімір ГЛОД,
Белінфарм.

*Па гарачых слядах*

# Мінск—Пекін: нам ёсць над чым працаваць разам!

**Учора афіцыйная парламенцкая дэлегацыя на чале са Старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіславам Шушкевічам вярнулася з Кітая на радзіму. Уражаннямі аб знаходжанні нашай дэлегацыі ў далёкай і вялікай краіне дзеліцца спецыяльны карэспандэнт "Народнай газеты" Сяргей Плыткевіч.**

### З ночы — у дзень, з зімы — у лета

Так можна адным сказам выказаць тое, што адбылося з беларускай дэлегацыяй у першы дзень падарожжа.

7 снежня ў 18.00 "Ту-154" узняўся ў студзеньскае неба з аэрапорта "Мінск-2". Але шасцігадзінная розніца паміж мінскім і пекінскім часам прывяла да таго, што самалёт, які ляцеў насустрач сонцу, фактычна праскочыў ноч. Нашы гадзіннікі паказвалі тры гадзіны ночы, а над пекінскім аэрапортам свяціла яркае сонца. Усе жыхары роднай Беларусі ў гэты час спакойна спалі, а афіцыйная дэлегацыя перасаджвалася на кітайскі самалёт "Боінг-737", каб накіравацца ўжо на поўдзень, у свабодную эканамічную зону.

Горад Сямэнь сустрэў беларускіх парламентарыяў дваццаціпяціградуснай цеплынёй і новабудоўлямі. Не так даўно кіраўніцтва Кітая стварыла тут свабодную эканамічную зону, а вынік ужо відавочны. І ўвасабляецца ён не толькі ў новабудоўлях, у тысячах рэкламных транспарантаў, але і ў дзейнасці многіх прадпрыемстваў. У Сямэні беларуская дэлегацыя наведала кампанію па вытворчасці сумак і чамаданаў "Цзінлі", абутковую кампанію "Цзілі", сямэнскую кандытарскую фабрыку, тэкстыльную фірму "Юнчан", электронную кампанію "Сіхуа". І ўсюды Станіславу Шушкевічу і членам дэлегацыі прыводзіліся канкрэтныя лічбы: што было да стварэння тут свабоднай эканамічнай зоны і што стала тут пасля. Скажам, абутковая кампанія "Цзілі" створана выключна на тайванскім капітале, значная колькасць яе прадукцыі ідзе на экспарт. З трох мільёнаў тэлевізараў, вырабленых электроннай кампаніяй "Сяхуа", на экспарт пайшло больш двух с паловай мільёнаў. Таксама канкурэнтаздольнымі аказаліся магнітолы і тэлефонныя апараты. І гэта не дзіўна, бо ўсё абсталяванне для завода імпартавана з Японіі. Сёння гэтыя прадпрыемствы ўжо акупіліся і прыносяць сваім акцыянерам і дзяржаве значны прыбытак.

Вечарам 8 студзеня дэлегацыю Беларусі прымала кіраўніцтва ўрада правінцыі Фуцзянь. Намеснік старшыні ўрада Чжан Цзякунь расказваў аб тых зменах, якія адбыліся ў жыцці людзей пасля стварэння тут свабоднай эканамічнай зоны.

### Слановы Зуб і Сонечны Рог

Востраў Гуланьюй па сваёй форме нагадвае слановы зуб. Таму і атрымаў такую назву. А самая высокая гара, якая першай сустракае ранішняе сонца, так і называецца — Сонечны Рог.

На самым краю вострава стаіць помнік народнаму герою Кітая Чэн Чэн Куну, які вызваліў шэсць стагоддзяў назад Тайвань ад галандцаў. Чэн Чэн Кун глядзіць у бок Тайваня, да якога адсюль толькі 72 кіламетры. І яму, і ўсім кітайцам засталося чакаць мала: скора Тайвань зноў стане часткай Кітая. Але зараз кроў для гэтага праліваць не трэба.

Беларуская дэлегацыя наведала востраў, Станіслаў Шушкевіч, пакідаючы запіс у кнізе ганаровых гасцей, быў прыемна здзіўлены: перад ім добрыя пажаданні кітайскім сябрам зрабіў прэзідэнт Малдовы Мірча Снегур.



### Што такое планавае нараджэнне дзяцей?

Такое пытанне ўзнікла ў членаў дэлегацыі Беларусі падчас наведвання воласці Сыцзіцін, якая знаходзіцца каля самага Пекіна. А ў адказ мы пачулі: планавае нараджэнне дзяцей — гэта нараджэнне дзяцей па плану. Пад агульны смех нам растлумачылі, што большасць кітайскіх сем'яў воласці мае па аднаму дзіцяці. Іншая справа — аддаленыя раёны. Там і па двое, і па трое можа быць.

Беларуская дэлегацыя наведала цяплічны камбінат, які займаецца вырошчваннем памідораў і іншай агародніны, пабывала ў дамах сялян. А вось Вялікую кітайскую сцяну ўбачыць не ўдалося: перад гэтым выпаў вялікі снег, і падняцца ў горы стала немагчыма...

Затое ў Навукова-даследчым інстытуце высокіх энергій Акадэміі навук Кітая Станіслаў Шушкевіч зноў змог адчуць сябе фізікам.

— Нам ёсць над чым разам працаваць! — гэтыя словы Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі можна назваць вынікам наведвання інстытута. І магчыма, скора ў беларускіх фізікаў з'явяцца сумесныя праграмы не толькі з некаторымі капіталістычнымі краінамі, але і з Кітаем.

### Да Ян Шанкуня — у шпіталь

З-за хваробы Старшыні Кітайскай Народнай Рэспублікі Ян Шанкуня сустрэча з ім магла не адбыцца. Але лідэр Беларусі не мог не наведаць яго. Станіслаў Шушкевіч пажадаў Ян Шанкуню хутчэйшага выздараўлення, лідэры дзяржаў выказаліся за тое, што трэба зрабіць усё магчымае, каб узаемаадносіны паміж дзвюма краінамі былі ўзаемавыгаднымі.

А раніца 10 студзеня для дэлегацыі Беларусі началася з ускладання вянка да помніка народным героям Кітая, што знаходзіцца на знакамітай плошчы Цянь Ань Мінь.

### Перамовы і падпісанне дагавораў

Зразумела, знаёмства з дзейнасцю кітайскіх прадпрыемстваў ва ўмовах свабоднай эканамічнай зоны, дзейнасцю сельгаспрадпрыемства і навукова-даследчага інстытута — гэта толькі частка праграмы візіту беларускай дэлегацыі ў далёкую і вялікую краіну. Галоўная задача Старшыні Вярхоўнага Савета і суправаджаючых яго асоб было, мабыць, у падпісанні міждзяржаўных пагадненняў паміж Беларуссю і Кітаем. Тых пагадненняў, якія дазволяць зрабіць нашы ўзаемаадносіны больш выгаднымі.

Дзеля гэтага сустракаўся Старшыня Вярхоўнага Савета рэспублікі Станіслаў Шушкевіч са старшынёй Пастаяннага камітэта ВСНП Вань Лі, прэм'ер-міністрам Кітая Лі Пэнам, Генеральным сакратаром ЦК КПК Цзянь Цзэмінам. Дзеля гэтага абодва бакі ішлі на кампрамісы, абмяркоўваючы тыя ці іншыя пытанні. Бо толькі з дапамогай кампрамісаў можна прыйсці да згоды, прыняць тыя рашэнні, якія не будуць абвергнуты жыццём.

### Сібір і Беларусь таксама побач!

Двойчы — па дарозе ў Кітай і назад — беларускі самалёт прызямляўся ў Новасібірску. Але калі першы раз гэта было глыбокай ноччу, і мы не выходзілі з самалёта, чакаючы пакуль яго заправяць палівам, то ў другі раз беларускую дэлегацыю сустрэў старшыня Новасібірскага аблсавета Анатоль Паўлавіч Сычоў.

— Паміж нашымі краінамі, — сказаў ён у час прыёму, — былі і будуць добрыя ўзаемаадносіны. Мы рады за вас, што вы наладжваеце ўзаемавыгадныя сувязі з Кітаем, з іншымі краінамі, мы ўпэўнены, што самыя цесныя кантакты будуць у Беларусі і з Расіяй.

Зразумела, Станіслаў Станіслававіч, усе члены дэлегацыі пагадзіліся з гэтымі словамі. А як можа быць інакш, калі Беларусь праводзіць сумленную палітыку, калі мы адносімся аднолькава добра да ўсіх дзяржаў.

... Беларускі самалёт узняўся над Новасібірскам, унізе праплывалі гарадскія кварталы, потым палі, лясы і рэкі, і здавалася, што мы пабывалі не ў адным візіце, а ў двух, а можа, і ў некалькіх: бо ў самалёце сядзелі не толькі афіцыйная дэлегацыя, але і прадстаўнікі вытворчых прадпрыемстваў, Белінфарма, дэлегацыя Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі. Усе яны працавалі па асобных планах. Аб пытаннях, якія абмяркоўваліся кожнай з гэтых дэлегацый, аб прынятых пагадненнях, падпісаных пасля перагавораў, мы раскажам у наступным нумары.

**Пекін — Новасібірск — Мінск.**

❑ Старшыню Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслава Шушкевіча ўрачыста прымае Старшыня Пастаяннага камітэта Усекітайскага сходу народных прадстаўнікоў КНР Вань Лі.

❑ Вянок ад беларускай дэлегацыі да помніка народным героям Кітая.



*Не ўсё так дрэнна*

# Кожны сам куе сваё шчасце

Ларыса РАКОЎСКАЯ,
Сяргей БРУШКО (фота)

**Ці не таму на кавальска-прэсавым заводзе цяжкіх штамповак, што ў Жодзіне, справы ідуць увогуле нядрэнна?**

Аб стабільнасці абстаноўкі на прадпрыемстве сведчыць перш за ўсё сярэдняя заработная плата — яна ў кастрычніку склала без падатку дзевяць тысяч рублёў.

Зразумелая справа, кавальскі — манапаліст па выпуску штампаваных дэталяў для вялікагрузных аўтамабіляў. Але не толькі.

З лістоў сталі на кавальскім заводзе робяць аконныя завесы (у продажы іх нідзе няма), на якія, расказваюць, завод змог выменяць камплект сантэхнікі на цэлы будуемы дом. Па просьбе эксплуатацыйнікаў на канец года завод зможа "штампаваць" дэталі для рухавікоў "Ікарусаў"...

Паколькі "пуцёўка" ў беспрацоўнае жыццё для жанчыны заўсёды больш верагодная, асабліва на такім "мужчынскім" прадпрыемстве, то на кавальска-прэсавым не так даўно з'явіўся яшчэ адзін цэх — швейны. Тут шыюць са штучнага футра пакрывалы, камплекты для мяккай мэблі, чахлы для легкавушак усіх марак, з адходаў футра — падушачкі, шапачкі, распрацоўваюцца мадэлі куртак на футры. Акрамя таго, на вязальных машынах асвойваюць мадэлі разнастайнага трыкатажу. Усё, што выпускаецца тут, можна набыць у фірменным магазіне кавальска-прэсавага завода.

Дарэчы, пра дамы. Не так проста цяпер прадпрыемствам выконваць сваю жыллёвую праграму. На кавальска-прэсавым жа не знізілі тэмпаў жыллёвага будаўніцтва: поўным ходам ідуць работы на дзвюх новабудоўлях, на адной з іх — гаспадарчым спосабам.

Не пакрыўджаны і тыя, хто вырашыў узяцца за індывідуальнае будаўніцтва. Тым, каго не спалохалі цэны на будматэрыялы, выдзелены ўчасткі. І завод ім дапаможа: часткова пагасіць узятыя на будаўніцтва пазыкі ў межах пяцідзесяці працэнтаў, будзе выдзяляць будматэрыялы.

❑ Кавалі-штампоўшчыкі Віктар НОВІКАЎ, Міхаіл ГУБІЧ, Аляксандр САСНІЦКІ.

*Судьбы*

# Девушка в кирзовых сапогах

## (Непридуманная история)

ДЕЙКУН Лариса Тихоновна,
ветеран войны и педтруда

Встречи, которая произошла у меня в санатории Министерства социального обеспечения "Березина", я никак не ожидала. Такое нарочно не придумаешь.

Был праздничный вечер в честь Дня освобождения Беларуси от немецко-фашистских захватчиков. Отдыхающие ветераны войны и труда надели выходные костюмы с медалями и орденскими планками и чинно расселись полукругом в вестибюле санатория. Ведущая вечера Людмила Николаевна поздравила всех с праздником и пригласила участников войны рассказать о себе или о подвигах товарищей. Нашлись желающие выступить.

Тут слово было предоставлено Илье Никитичу — невысокому, военной выправки человеку. Он сказал, что на днях купил книгу Светланы Алексиевич "У вайны не жаночае аблічча". Прочел ее и внимательно рассмотрел все фотографии. На одной из них под N 61 он узнал девушку — работницу госпиталя, которая светлым лучом вошла в его жизнь. Прошлое всегда кажется удивительным и романтичным.

— Хочу повести речь не о трагических боях, — сказал он, — хочу рассказать о работниках госпиталя, куда я попал с тяжелейшими ранениями. Болело все, я чувствовал, что смерть готова потушить свечу моей жизни и ждал этой минуты как избавления от телесных мук. Врачи напрасно хлопотали. Я угасал, не было никакого желания жить.

И вот однажды вечером зашла в нашу палату девчушка лет шестнадцати — сама любовь и доброта, в белой-белой кофточке. Явилась вдруг, как радуга, легко вынырнула у порога из своих огромных солдатских сапог, мягко прошла в носках и певучим голоском сказала:"Здравствуйте, товарищи раненые. Я тут работаю прачкой. У меня свободный час. Хотите — я вам стихи почитаю или письма домой напишу". (В нашей палате у большинства раненых руки были в "самолётах".) Не помню, что она читала, только вдруг почувствовал, что она поправляет мою подушку, что-то говорит лично мне. Полузаплетенные русые косички ее совсем как у моей одноклассницы, о которой я несколько лет робко вздыхал и на фронте мечтал, но которую даже не рискнул поцеловать, уходя на войну. И вдруг мне безумно захотелось жить, снова увидеть свою первую любовь... И я застонал.

Девчушка мгновенно нырнула в свои кирзовые сапоги и побежала за врачом. Он быстро явился и занялся мной.

А та девчушка и потом приходила и писала моей девушке от меня письма, да как писала! Какие слова находила! Они мне помогли обрести счастье на всю жизнь.

С первых же слов я поняла, что рассказывает Илья Никитич обо мне. Я вспомнила, где видела этого человека, вспомнила ту тяжелую палату, где беда ходила в обнимку с надеждой и счастьем, вспомнила бойца, почти мальчишку с рукой в гипсовом "самолете", тот ужас, который охватил меня, когда показалось, что он вот сейчас умрет. Очень многое вместила в себя эта минута воспоминания.

— А как звали ту девчушку? — полюбопытствовал кто-то из отдыхающих.

— Имя у нее было красивое...

— Хотите, я скажу!? — поднялась я с места неожиданно для себя, и, торопясь, чтобы он не опередил, выпалила:

— Звали ее Ларисой, а вас она называла Илико.

— Откуда вы знаете? — удивился Илья Никитич.

— Да я и есть та девчушка в кирзовых сапогах. И "самолет" ваш на правой руке помню, и имя ваше на Илико я переиначила.

Все присутствующие, видимо, думая, что все это специально подстроено, зааплодировали.

А Илья Никитич, глядя на мою седину и далеко не изящные габариты, как-то разочарованно повторял:"Не может быть".

— Может, может, — возразила я, — а что старая я и уже не изящная, так ведь полвека прошло.

Наконец-то узнал меня мой подопечный и обнял.

*г.Гомель.*

*Вы прасілі расказаць*

# І долар чакае палучкі

**Як устанаўліваюцца курсы валют? Ці магчыма іх сёння штучна панізіць або павысіць? Чаму не адмяняюцца абмежаванні на продаж СКВ? На гэтыя і іншыя пытанні карэспандэнт "Народнай газеты" папрасіў адказаць старшыню Мінскага аддзялення рэгіянальнага камерцыйнага банка "Комплекс" Яўгена КРАЎЦОВА.**

**— Існуе меркаванне, што валютныя курсы ў нашай рэспубліцы ўстанаўліваюцца з аглядкай на Маскву. Ці так гэта?**

— Не. Снежаньскае падзенне долара ў Расіі практычна не кранула Беларусі. Да таго ж і ў Мінску ў кожнага банка свае суадносіны долара да рубля. Не кажучы пра абласныя цэнтры. Хаця мы, безумоўна, улічваем банкаўскія даныя з сумежных рэспублік. Галоўны ж арыенцір "Комплексу", напрыклад, — колькі прадаецца намі доляраў, столькі ж павінна і купляцца.

**— Пры кожным патаненні рубля ўспыхваюць размовы, маўляў, хтосьці зноў "гуляе валютай". Ці магчыма зараз падобнае?**

— Думаю, што не. Такой велізарнай колькасці "зялёных", каб можна было штучна павышаць або паніжаць курсы, у рэспубліцы наўрад ці хто мае.

Дарэчы, наш банк карэкціруе валютныя курсы штодзённа. Усё залежыць ад попыту і прапановы. Такая палітыка ўвогуле прынесла нам поспех. Зараз у рэспубліцы кожны дзесяты долар, як наяўны, так і беззнаяўны, набываецца ў "Комплексе". І яшчэ — цяпер не толькі мы аглядваемся на "чорны" рынак, але і "нелегалы" глядзяць і ўлічваюць пачым і што мы прадаём. А гэта, вядома ж, наш плюс.

**— Як жа ўстанаўліваюцца суадносіны "драўляных" і доляраў?**

— У нас над гэтым працуе цэлы аддзел. Вызначана да 50 фактараў, якія і ўплываюць на курс таго ж долара ЗША. Назваць іх, зразумела, я не магу — камерцыйная тайна. Але скажу, што зараз улічваюцца, напрыклад, адносіны беларускага рубля да расійскага, адкрыццё або закрыццё граніц і нават — калі на прадпрыемствах выдаецца зарплата.

**— У тым, што ў мінулым годзе на нейкі час былі адменены нормы продажу СКВ насельніцтву, ёсць немалая заслуга і "Комплексу". Аднак** **нядоўга музыка іграла... Нацыянальны банк вярнуўся да прынцыпу "у адны рукі столькі вось валюты"...**

— Я лічу, што ўсе абмежаванні на грашовым шляху неразумныя. У тыя некалькі тыдняў свабоднага продажу нашы абменныя пункты не вельмі ламаліся ад пакупнікоў. Было пару чалавек, якія бралі па некалькі тысяч доляраў. Але яны, зразумела, пагоды не рабілі. Ды і наогул размовы аб тым, што калі дзяржава перастане кантраляваць валюту, то яна сплыве з рэспублікі, не зусім слушныя. Калі валюта пойдзе з Беларусі, дык усе банкі, у тым ліку і наш банк, павысяць курс валюты. І яна зноў пойдзе у рэспубліку.

**— Нядаўна вы адмянілі камісійны працэнт пры куплі доляраў, а пры продажы яго знізілі з двух да аднаго працэнтаў. Хаця для нашай рэспублікі гэта і новаўвядзенне, але ў той жа Варшаве ён яшчэ меншы.**

— Так. Мы таксама плануем давесці камісійны працэнт да 0,5.

**— Чаму вы не абменьваеце злотыя?**

— Нейкі час мы спрабавалі гэта рабіць. Але зноў жа неабходна, каб Нацыянальны банк даў згоду, г.зн. устанавіў свой уліковы курс злотых.

**— Якія змяненні адбудуцца ў рабоце банка "Комплекс" у сёлетнім годзе?**

— Загадваць далёка не бяруся. Жыццё падкажа. Пакуль жа збіраемся прыцягнуць да сябе ў банк у якасці кліентаў некаторыя буйныя недзяржаўныя структуры. Няхай іх будзе не вельмі многа, але мы зможам іх якасна абслужыць. І будзем весці з імі сумесны бізнес.

Нязменнымі застаюцца і нашы асноўныя напрамкі — крэдытаванне фірм, выдача пазык пад заклад, адкрыццё дэпазітных рахункаў і праваджэнне ўзаемаразлікаў з Расіяй і іншымі рэспублікамі.

Гутарыў Віктар ЛЕШЧАНКА.

*Факт*

# Будет чем лечить зубы

**Первую партию стоматологического инструмента выпустила государственная производственно-коммерческая фирма "Стоматолог".**

Она учреждена Сморгонским заводом оптического станкостроения и Гродненским областным комитетом Красного Креста. На валюту в Германии закуплено необходимое оборудование и сырье. Здесь пока заняты 12 работниц, но небольшой коллектив планирует "закрыть" потребность поликлиник в стоматологическом инструменте. По отзывам врачей, которые испытывали пробную партию инструмента, он превосходит по качеству выпускающийся ныне в СНГ.

Кстати, Сморгонский завод оптического станкостроения помог стоматологическим поликлиникам Москвы, Санкт-Петербурга, Львова, Алма-Аты, Бишкека, Владивостока, Самары и ряда других городов установить свои вакуумные установки для покрытия под золото зубных протезов.

Павел МАКЛЮК.

*Крыўда*

# Як дзяржава да нас, так і мы да яе

Прыйдзе скора павестка майму сыну ісці ў армію. А можа, не адпускаць? Каго яму там абараняць? Мільянераў, спекулянтаў, каапэратараў, якія нічога не вырабляюць, а толькі цану накідваюць? У мяне чацвёра дзетак. Учора стала збіраць дзяўчынку-першакласніцу ў школу, а яна ў слёзы — боцікі парваліся. Праўда, дасталіся яны ёй ад старэйшай сястры. Я да мужа, мо зашыеш? А ён адмовіўся: рамонт немагчымы. Божухна, што рабіць, дзе гэтыя боцікі купіць? Ніхто не звяртае на сяле ўвагі на мнагадзетныя сем'і. Мы ж не просім дарэмна, зарабляем грошы, маем сваю гаспадарку. Жывём у бруднай зоне, а ў магазінах, можна сказаць, нічагусенькі няма.

Не падумайце, што з-за боцікаў ці адзення раззлавалася маці і не пускае сына ў армію. Як дзяржава да нас, так і мы да яе. Як будзе там служыцца сыну, калі аб доме яго родным ні ў каго, акрамя бацькоў галава не баліць?

Марыя РЭМІЗЕВІЧ.
*в.Берасneўка,*
*Брагінскі раён.*

*Адраджэнне*

# У Маскве гучыць... беларуская мова

Леанід ФАДЗЕЕЎ

"Гвалтоўна пазбаўленая дзяржаўнасці, Беларусь, хай і скрозь пакуты, але абавязкова адродзіцца, зойме пачэснае месца ў сям'і цывілізаваных народаў Еўропы".

Гэтыя словы, што нядаўна гучалі ў памяшканні беларускага паўпрэдства ў Маскве, напэўна, маглі стаць сімвалам урачыстага сходу беларускіх юнакоў і дзяўчат, якія рашылі адзначыць нараджэнне яшчэ аднаго нацыянальнага згуртавання ў Расіі — студэнцкага. Маладзёжная "Пагоня" атрымала, нарэшце, юрыдычны статус, прабіўшыся скрозь бюракратычныя калідоры маскоўскіх кантор. Цяганіна працягвалася больш за паўгода.

Тут было свята як свята: радасць шчырага сяброўства, урачыстыя віншаванні гасцей, усхваляваная гаворка аб праблемах маладзёжнага руху за беларускае адраджэнне.

На свята прыехалі сябры з мінскага згуртавання моладзі "Выбранецкія шыхты". І не з пустымі рукамі, а прывезлі цэлую бібліятэчку кніг па гісторыі нашай дзяржавы, пра духоўныя здабыткі народа. Былі тут землякі з Францыі, прадстаўнікі іншых згуртаванняў землякоў у Маскве, журналісты радыё і друку, нават генеральны дырэктар акцыянернага таварыства "Кросны" Ян Грыб.

Упэўнены, што ніхто не пашкадаваў, адгукнуўшыся на запрашэнне студэнцкай "Пагоні". Бо адбылася незвычайная экскурсія "Масква беларуская", дзе амаль усіх чакала радаснае адкрыццё. Гэта быў маршрут, які не існуе і не мог існаваць у сталіцы імперскіх амбіцый і бальшавіцкай пагарды да іншых "малодшых сясцёр".

Удзельнікі ўрачыстага збору наведалі мясціны, дарагія для беларускага народа. І адкрывальнікам многіх яшчэ невядомых нам гістарычных старонак быў малады мінскі навуковец Генадзь Прыбытка. Мо ўпершыню нашчадкам адкрылася праз сівыя стагоддзі найвялікшае значэнне подзвігу нашых продкаў, якія прынеслі ў маскоўскую Русь святло друкаванага слова, непаўторную прыгажосць адмысловых архітэктурных ансамбляў, хараство беларускай разьбы, аздобленай пазалотай, першыя ўзоры дойлідскага мастацтва.

Трэба было паглядзець збоку, як тры дзесяткі дзівакоў пад халодным восеньскім дажджом больш за тры гадзіны цягаліся за сваім нястомным "экскурсаводам" па шматлікіх маскоўскіх вуліцах і завулках!

У расійскай сталіцы шмат будынкаў, звязаных з жыццём, вучобай, дзейнасцю Янкі Купалы. Захаваўся касцёл, дзе паэт абвянчаўся з Уладзіславай Францаўнай, дом мастака Елісеева, дзе часта спыняўся ён, гасцініца, загінуў вялікі сын беларускага народа. Тут шмат памятных мясцін, звязаных з імёнамі Якуба Коласа, Канстанцыі Буйло, Уладзіміра Караткевіча, Уладзіміра Дубоўкі, іншых выдатных дзеячаў культуры, навукі, мастацтва, палітыкі нашай рэспублікі. Захаваўся і дом, дзе размяшчаўся эвакуіраваны беларускі ўрад у час вайны.

І не трэба здзіўляцца, што ва ўсёй Маскве, сталіцы "раўнапраўных братоў і сясцёр", не знойдзеш ніводнага памятнага знака, звязанага з беларускім народам, ніводнай мемарыяльнай дошкі... Поўная, як кажуць, салідарнасць былых маскоўскіх камісараў з мінскімі ўчарашнімі партыйнымі бонзамі і сённяшнімі ўрадавымі чыноўнікамі, абыякавымі да беларускай нацыянальнай ідэі, да сапраўднага нацыянальнага адраджэння.

І мне здаецца, што гэта звычайная падзея глыбока сімвалічная: маладыя людзі прынялі эстафету ад сваіх продкаў, якія былі нявольнікамі, а часцей за ўсё вязнямі маскоўскіх уладароў, адчулі праз гады іх вялікую пакутлівую мару аб роднай Беларусі, вольнай і незалежнай.



*Читатель размышляет*

# С пеной у рта ничего не надо доказывать... Нужно просто задуматься

На домашний адрес я получаю несколько газет. Но вот привычка: приходит суббота, и я отправляюсь в библиотеку, чтобы ознакомиться со всей недельной периодикой. Листаю не только белорусские издания, но и московские, украинские, прибалтийские, выходящие на русском языке...

Замечаю: насколько разбросаны, порой полярны мнения журналистов, читателей. Что ж, каждый имеет право на свою точку зрения. Важно только, чтобы она была подкреплена серьезными объективными аргументами, глубокими выводами. Вот этого-то у многих авторов как раз и не хватает. Взяться за перо решил после того, когда в одной из газет прочитал следующие строки: "Я часто задаю себе вопрос: когда жилось лучше — раньше или теперь? Пусть меня обвинят в консерватизме, ностальгии по прошлому, наконец, в отсталости взглядов, но твердо убежден, что лучше жилось раньше. Тут с пеной у рта ничего не надо доказывать. Все видно, как на ладони. Идет обвальное обнищание народа..."

Хотелось бы задать автору заметки сразу несколько вопросов. Первый — все ли были довольны жизнью раньше? Один трудился в поте лица, другой — через пень-колоду, а получали одинаково, а порой тунеядец оказывался даже в выигрыше. Нет, не лучше жил раньше тот, у кого, как говорят, золотые руки и светлая голова. Сегодня для таких открылись большие возможности во всех сферах. Не хочешь работать в колхозе — добивайся фермерского хозяйства и трудись во благо себе и своему семейству, не снимая с себя, понятно, определенных обязанностей перед государством. Не нравится работа на заводском конвейере — создавай свое предприятие и разворачивайся как можешь. Не каждый способен вести свое дело? Что ж, тогда и нечего широко раскрывать рот: что заработал, то и должен иметь. Коммунизм мы строили более семидесяти лет, но так и не построили. Да и никогда не построим, если будем заниматься уравниловкой.

Я понимаю "крокодиловы слезы" тех, кто раньше получал лишь за то, что приходил на работу. Но ведь он обкрадывал тех, кто умел и хотел по-настоящему трудиться. Он обкрадывал страну, обкрадывал будущие поколения. Чтобы создавать видимость жизненного благополучия народа, брежневым, сусловым, черненкам и сотоварищам приходилось за бесценок продавать природные богатства страны. Волосы дыбом встают, когда знакомишься с цифрами, характеризующими перекачку нефти за рубеж. Продали все, что, кажется, могли.

Но подземные кладовые, понятно, не бездонные. Вот и дожились, что одного не хватает, другого недостает, запастись третьим нет сил. Словом, к тому, к чему мы пришли, должны были прийти.

Так стоит ли лить слезы по прошлому? Думаю, что не стоит. Как не стоит изобретать велосипед. Весь мир преодолевает трудности — преодолеем и мы. Тем более что есть у кого поучиться. Порядок там, где есть хозяин. Вот за это "золотое" звено и нам нужно ухватиться. Не исповедовать коллективную безответственность, а сделать так, чтобы каждый человек чувствовал себя хозяином, собственником. Чтобы каждый знал: будет работать хорошо — будет и жить хорошо. Сегодня многим не по душе предприниматели, а я вот что думаю: если человек разворачивает свое дело честно — хвала ему. Проходимцам, жуликам должна быть закрыта дорога в первую очередь правоохранительными органами.

Я согласен с тем, что переход к рыночным отношениям больно ударил по таким категориям населения, как пенсионеры, инвалиды, студенты, многодетные семьи. Но, уверен, пройдет какое-то время и государство окажет им лучшую поддержку. Не зря говорят, чем больше будет в стране богатых людей, тем меньше будет бедных. И не надо выступать от имени всего народа, уверен, большинство людей никогда не захотят вернуться в прошлое. Тут с пеной у рта ничего не надо доказывать... Нужно просто задуматься.

Сергей КИРИЧЕНКОВ, 42 года.
*г.Минск.*

*Не магу маўчаць*

# Парнаграфія на калёсах

Колькі разоў парываўся напісаць аб гэтым у газету, але баяўся быць незразуметым сябрамі і суседзямі.

Сядаеш, напрыклад, у некаторых гарадскіх маршрутных аўтобусах на першае сядзенне і не ведаеш, куды вочы дзець. З-за шкла вадзіцельскай кабіны цябе бессаромна "частуюць" зусім голым жаночым целам на часопіснай выразцы ці іншай якой парнаграфічнай шырпатрэбшчынай.

Я разумею, што ў жаночым целе ёсць нешта прыгожае і цікавае. Але навошта прысаромліваць мяне гэтым перад жонкай ці ўнукамі. Не апусціш жа вочы долу і не будзеш паўгадзіны так сядзець, як сядзеў я перад Новым годам у аўтобусах 88-га і 102-га маршрутаў.

Усяму патрэбны сваё мера і месца.

Васіль КІЗІНА.
*г.Мінск.*

*З афіцыйных крыніц*

# Зорка, як крыж

Паколькі не змяншаецца колькасць пытанняў чытачоў пра тое, што будуць мець на пагонах афіцэры беларускага войска, прапануем удакладняючую інфармацыю. Яе мы атрымалі ў Камісіі па забеспячэнню адзінай палітыкі выкарыстання дзяржаўных сімвалаў Рэспублікі Беларусь пры Прэзідыуме Вярхоўнага Савета.

Большасць членаў камісіі і далучаных да яе работы вайскоўцаў зараз пагаджаюцца з прапановай галоўнага распрацоўшчыка праектаў пагонаў С.Саркісава: выкарыстоўваць у якасці знакаў адрознення афіцэрскага саставу чатырохкутную зорку. Яна срэбнага колеру, нясе ў сабе выяву крыжа і пэўным чынам нагадвае традыцыйную беларускую кафельку.

Прапануем выяву праекта зоркі.

Народная газета

*Закон Рэспублікі Беларусь*

# Аб процідзеянні манапалістычнай дзейнасці і развіцці канкурэнцыі

Закон вызначае арганізацыйныя і прававыя асновы абмежавання, спынення і папярэджання манапалістычнай дзейнасці і накіраваны на стварэнне ўмоў для развіцця канкурэнцыі ў мэтах эфектыўнага функцыяніравання таварных рынкаў і абароны правоў спажыўцоў Рэспублікі Беларусь.

## РАЗДЗЕЛ І. АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭННІ

**Артыкул 1. Вызначэнне паняццяў**

Для мэт гэтага Закона прымаюцца наступныя паняцці і іх азначэнні:

рэспубліканскі таварны рынак — сфера абарачэння тавараў, паслуг, каштоўных папер і інвестыцый у межах граніц Рэспублікі Беларусь:

мясцовы таварны рынак — сфера абарачэння тавараў, паслуг, каштоўных папер і інвестыцый у межах граніц адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак;

гаспадарніцкія суб'екты — юрыдычныя асобы ўсіх форм уласнасці, якія займаюцца дзейнасцю па вытворчасці, рэалізацыі, набыццю тавараў, а таксама грамадзяне, што ажыццяўляюць самастойную прадпрымальніцкую дзейнасць;

органы кіравання — выканаўчыя і распарадчыя органы дзяржаўнага кіравання рэспубліканскага і мясцовага ўзроўняў, а таксама саюзы, асацыяцыі, канцэрны і іншыя аб'яднанні, якім гаспадарніцкімі суб'ектамі часткова або поўнасцю дэлегаваны правы, звязаныя з дзеяннямі на рынку;

дамінуючае становішча на рынку — выключнае становішча гаспадарніцкага суб'екта на рынку, якое дае яму магчымасць самастойна або дзейнічаючы сумесна з іншымі гаспадарніцкімі суб'ектамі дыктаваць умовы спажыўцам і канкурэнтам, ускладняць доступ на рынак іншым гаспадарніцкім суб'ектам або іншым чынам абмяжоўваць канкурэнцыю. Дамінуючым прызнаецца становішча гаспадарніцкага суб'екта, доля якога на рынку пэўнага тавару перавышае гранічную велічыню, што ўстанаўліваецца Дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па антыманапольнай палітыцы з улікам колькасці канкурыруючых суб'ектаў і іншых асаблівасцей рынку;

манапалістычная дзейнасць — супярэчачыя гэтаму Закону дзеянні (бяздзейнасць) гаспадарніцкіх суб'ектаў або органаў кіравання, якія накіраваны на недапушчэнне, абмежаванне або ўстараненне канкурэнцыі, а таксама ўшчамляюць законныя інтарэсы спажыўцоў;

канкурэнцыя — спаборнасць гаспадарніцкіх суб'ектаў, калі іх самастойныя дзеянні абмяжоўваюць магчымасці кожнага ўздзейнічаць на агульныя ўмовы абарачэння тавараў на рынку і стымулююць вытворчасць неабходных спажыўцу тавараў;

натуральная манаполія — сферы дзейнасці, дзе ў выніку прыродных, тэхналагічных і іншых умоў выключаецца або абмяжоўваецца магчымасць існавання канкурэнтных рынкаў;

дзяржаўная манаполія — сферы дзейнасці, якія забяспечваюць адпаведным органам улады і кіравання выкананне функцый, звязаных з бяспекай і іншымі інтарэсамі рэспублікі.

**Артыкул 2. Заканадаўства Рэспублікі Беларусь аб процідзеянні манапалістычнай дзейнасці і развіцці канкурэнцыі**

1. Правядзенне антыманапольнай палітыкі ў Рэспубліцы Беларусь рэгулюецца гэтым Законам і іншымі актамі заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

2. Дзейнасць гаспадарніцкіх суб'ектаў Рэспублікі Беларусь, якія займаюць дамінуючае становішча на рынках іншых дзяржаў, а таксама гаспадарніцкіх суб'ектаў іншых дзяржаў, якія ажыццяўляюць манапалістычную дзейнасць у адносінах да гаспадарніцкіх суб'ектаў Рэспублікі Беларусь, рэгулюецца адпаведнымі міждзяржаўнымі (міжурадавымі) пагадненнямі.

**Артыкул 3. Сфера прымянення Закона**

1. Закон дзейнічае на ўсёй тэрыторыі Рэспублікі Беларусь і распаўсюджваецца на адносіны, у якіх удзельнічаюць гаспадарніцкія суб'екты, органы кіравання, службовыя асобы ў працэсе дзейнасці на рэспубліканскім і мясцовых таварных рынках, уключаючы грашова-крэдытныя і валютныя. Закон прымяняецца да праваадносін гаспадарніцкіх суб'ектаў, органаў кіравання, службовых асоб, якія маюць сваімі вынікамі абмежаванне канкурэнцыі на таварных рынках або іншыя адмоўныя вынікі.

2. Дзеянне гэтага Закона не распаўсюджваецца на адносіны, што вынікаюць з аховы вынаходстваў, прамысловых узораў, таварных знакаў і аўтарскіх правоў, за выключэннем выпадкаў, калі правы, звязаныя з гэтымі адносінамі, наўмысна выкарыстоўваюцца іх уладальнікамі ў мэтах абмежавання канкурэнцыі.

3. Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь мае права ўносіць змяненні ў сферу прымянення гэтага Закона або асобных яго палажэнняў зыходзячы з інтарэсаў грамадства і яго грамадзян.

**Артыкул 4. Дзяржаўныя органы антыманапольнага рэгулявання**

1. У мэтах абмежавання, спынення і папярэджання манапалістычнай дзейнасці, садзейнічання развіццю канкурэнцыі ўтвараецца Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па антыманапольнай палітыцы (Антыманапольны камітэт Рэспублікі Беларусь), падсправаздачны ў сваёй дзейнасці Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь.

2. Асноўныя задачы, функцыі, паўнамоцтвы і адказнасць Антыманапольнага камітэта Рэспублікі Беларусь вызначаецца гэтым Законам і іншымі заканадаўчымі актамі Рэспублікі Беларусь.

## РАЗДЗЕЛ ІІ. МАНАПАЛІСТЫЧНАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ

**Артыкул 5. Злоўжыванне гаспадарніцкім суб'ектам дамінуючым становішчам на рынку**

Забараняецца дзейнасць (дзеянні або бяздзейнасць) гаспадарніцкага суб'екта, які займае дамінуючае становішча на рынку, калі гэта дзейнасць мае або можа мець сваім вынікам абмежаванне канкурэнцыі ці ўшчамленне законных інтарэсаў іншых гаспадарніцкіх суб'ектаў або спажыўцоў, праз:

стварэнне перашкод доступу на рынак (выхаду з рынку) іншым гаспадарніцкім суб'ектам;

наўмыснае скарачэнне вытворчасці, выключэнне тавараў з абарачэння з мэтай стварэння або падтрымання дэфіцыту на рынку, неабгрунтаванае павышэнне (зніжэнне) цэн;

навязванне контрагенту ўмоў дагавора продажу тавараў, якія не выгадныя для яго або не адносяцца да прадмета дагавора (неабгрунтаваныя патрабаванні перадачы фінансавых сродкаў, у тым ліку ў замежнай валюце, сыравіны, матэрыялаў, вырабаў, жылых дамоў, кватэр, рабочай сілы контрагента і інш.);

устанаўленне (падтрыманне) цаны або надбавак (скідак) да цаны для атрымання манапольна высокага прыбытку або ўстаранення канкурэнтаў;

іншыя дзеянні (бяздзейнасць), якія прыводзяць да ўказаных вынікаў.

**Артыкул 6. Пагадненні гаспадарніцкіх суб'ектаў, якія абмяжоўваюць канкурэнцыю**

1. Забараняецца і ва ўстаноўленым парадку прызнаецца несапраўдным уступленне ў аб'яднанні, заключэнне і ажыццяўленне ў любой форме пагадненняў (узгодненых дзеянняў) паміж канкурыруючымі гаспадарніцкімі суб'ектамі, калі гэта мае на мэце або вынікам:

раздзел рынку па тэрытарыяльнаму прынцыпу, па аб'ёму продажу або закупак, па асартыменту або па колу спажыўцоў;

выключэнне або абмежаванне доступу на рынак іншых гаспадарніцкіх суб'ектаў у якасці прадаўцоў або пакупнікоў;

неабгрунтаванае павышэнне, зніжэнне або падтрыманне цэн на аўкцыёнах і таргах;

выкарыстанне аперацый з каштоўнымі паперамі, крэдытнымі рэсурсамі, замежнай валютай, мэтай або вынікамі якіх з'яўляецца дасягненне, захаванне або ўзмацненне дамінуючага становішча на таварных рынках;

іншыя меры, якія абмяжоўваюць або могуць абмежаваць канкурэнцыю.

2. Забараняюцца і ва ўстаноўленым парадку прызнаюцца несапраўднымі поўнасцю або часткова дасягнутыя ў любой форме пагадненні (узгодненыя дзеянні) неканкурыруючых гаспадарніцкіх суб'ектаў, адзін з якіх займае дамінуючае становішча, а другі з'яўляецца яго пастаўшчыком або пакупніком (заказчыкам), калі такія пагадненні (узгодненыя дзеянні) маюць або могуць мець сваім вынікам абмежаванне канкурэнцыі.

**Артыкул 7. Акты і пагадненні органаў кіравання, якія вядуць да абмежавання канкурэнцыі**

1. Органам кіравання забараняецца прымаць акты, заключаць пагадненні, выконваць іншыя дзеянні, якія абмяжоўваюць самастойнасць гаспадарніцкіх суб'ектаў, ствараюць дыскрымінуючыя ўмовы дзейнасці асобных гаспадарніцкіх суб'ектаў, калі такія акты або дзеянні маюць або могуць мець сваім вынікам абмежаванне канкурэнцыі і (або) ушчамленне законных інтарэсаў гаспадарніцкіх суб'ектаў або грамадзян, у тым ліку:

неабгрунтавана перашкаджаць стварэнню новых гаспадарніцкіх суб'ектаў у якой-небудзь сферы дзейнасці;

устанаўліваць забароны на ажыццяўленне пэўных відаў дзейнасці гаспадарніцкімі суб'ектамі або на вытворчасць пэўных відаў тавараў, за выключэннем выпадкаў, прадугледжаных заканадаўствам;

абмяжоўваць правы гаспадарніцкіх суб'ектаў на продаж, пакупку, абмен тавараў;

даваць гаспадарніцкім суб'ектам указанні аб першачарговай пастаўцы тавараў пэўнаму колу пакупнікоў (заказчыкаў) або аб прыярытэтным заключэнні дагавораў, не прадугледжаных заканадаўствам;

неабгрунтавана прадастаўляць асобным гаспадарніцкім суб'ектам падатковыя або іншыя льготы, што ставяць іх у пераважнае становішча ў адносінах да іншых гаспадарніцкіх суб'ектаў на рынку таго ж тавару.

2. Забараняецца ўтварэнне саюзаў, асацыяцый, канцэрнаў, іншых структур кіравання, якое мае на мэце або вынікам манапалізацыю вытворчасці або рэалізацыі тавараў, а таксама надзяленне існуючых саюзаў, асацыяцый, канцэрнаў або іншых структур кіравання паўнамоцтвамі, ажыццяўленне якіх мае або можа мець сваім вынікам абмежаванне канкурэнцыі, выключаючы сферы натуральнай і дзяржаўнай манаполіі, устаноўленыя заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

## РАЗДЗЕЛ ІІІ. АБМЕЖАВАННЕ, СПЫНЕННЕ І ПАПЯРЭДЖАННЕ МАНАПАЛІСТЫЧНАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

**Артыкул 8. Дзяржаўныя меры антыманапольнага рэгулявання**

Дзяржава ў асобе ўпаўнаважаных органаў ажыццяўляе меры па абмежаванню, спыненню і папярэджанню манапалістычнай дзейнасці гаспадарніцкіх суб'ектаў і органаў кіравання, а таксама па фінансаваму, інфармацыйнаму і іншаму забеспячэнню ўмоў для развіцця канкурэнцыі праз:

кантроль за дзейнасцю гаспадарніцкіх суб'ектаў, якія займаюць дамінуючае становішча на рынку;

разбуйненне (раздзяленне) гаспадарніцкіх суб'ектаў, якія займаюць дамінуючае становішча;

кантроль за стварэннем, зліццём, далучэннем, пераўтварэннем, ліквідацыяй гаспадарніцкіх суб'ектаў;

кантроль за набыццём акцый, паёў, долей удзелу ў статутным капітале гаспадарніцкіх суб'ектаў;

эканамічнае пратэкцыяніраванне развіцця канкурэнцыі;

садзейнічанне грамадскаму кантролю за выкананнем антыманапольнага заканадаўства.

**Артыкул 9. Дзяржаўны кантроль за дзейнасцю гаспадарніцкіх суб'ектаў, якія займаюць дамінуючае становішча на рынку**

1. У выпадку, калі становішча на рынку гаспадарніцкага суб'екта або групы суб'ектаў прызнаецца дамінуючым, устанаўліваецца дзяржаўны кантроль за аб'ёмам вытворчасці і якасцю тавараў, узроўнем цэн і тарыфаў, іншымі паказчыкамі дзейнасці дадзенага суб'екта (суб'ектаў) з мэтай устанаўлення факта злоўжывання такім становішчам.

2. Пры выяўленні фактаў, якія сведчаць аб тым, што гаспадарніцкі суб'ект або група гаспадарніцкіх суб'ектаў, якія займаюць дамінуючае становішча на рынку, дапусцілі злоўжыванне гэтым становішчам з мэтай атрымання выгады на шкоду інтарэсам дзяржавы, спажыўцоў, іншых контрагентаў, у адносінах да дадзенага суб'екта (суб'ектаў) прымяняюцца санкцыі, прадугледжаныя заканадаўствам.

**Артыкул 10. Разбуйненне (раздзяленне) гаспадарніцкіх суб'ектаў, якія займаюць дамінуючае становішча**

1. Разбуйненне (раздзяленне) гаспадарніцкіх суб'ектаў, якія займаюць дамінуючае становішча, у тым ліку ў працэсе прыватызацыі, ажыццяўляецца з улікам адной або некалькіх наступных умоў:

магчымасці арганізацыйнага і (або) тэрытарыяльнага адасаблення прадпрыемстваў, структурных падраздзяленняў або структурных адзінак;

адсутнасці цеснай тэхналагічнай узаемасувязі прадпрыемстваў, структурных падраздзяленняў або структурных адзінак;

размежаванне сфер дзейнасці прадпрыемстваў, структурных падраздзяленняў або структурных адзінак у рамках вузкай прадметнай спецыялізацыі;

немагчымасці з прычыны эканамічнага або палітычнага характару прыцягнення іншых пастаўшчыкоў на адпаведныя таварныя рынкі.

2. Ініцыятыўнае разбуйненне (раздзяленне) гаспадарніцкіх суб'ектаў, якія займаюць дамінуючае становішча, праводзіцца ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

У выпадку, калі выдзяленню структурнага падраздзялення або структурнай адзінкі гаспадарніцкага суб'екта перашкаджае ўласнік або ўпаўнаважаны ім орган, то канчатковае рашэнне прымае Антыманапольны камітэт Рэспублікі Беларусь.

3. Антыманапольны камітэт Рэспублікі Беларусь мае права прыняць рашэнне аб прымусовым разбуйненні (раздзяленні) гаспадарніцкіх суб'ектаў, якія займаюць дамінуючае становішча, калі яны злоўжываюць гэтым становішчам і (або) іх дзейнасць прыводзіць да абмежавання канкурэнцыі.

Рашэнне Антыманапольнага камітэта Рэспублікі Беларусь аб прымусовым разбуйненні (раздзяленні) гаспадарніцкіх суб'ектаў падлягае выкананню ва ўстаноўлены ім тэрмін.

4. У выпадку, калі дамінуючае становішча гаспадарніцкага суб'екта ўзнікла ў выніку арганізацыі выпуску тавару, уласцівасці якога перавышаюць узровень аналагаў, рашэнне Антыманапольнага камітэта Рэспублікі Беларусь аб прымусовым разбуйненні (раздзяленні) можа быць прынята не раней аднаго года з моманту з'яўлення на рынку дадзенага тавару.

**Артыкул 11. Дзяржаўны кантроль за стварэннем, зліццём, далучэннем, пераўтварэннем, ліквідацыяй гаспадарніцкіх суб'ектаў і органаў кіравання**

1. Для папярэджання ўзнікнення дамінуючага становішча гаспадарніцкіх суб'ектаў ажыццяўляецца дзяржаўны кантроль за стварэннем саюзаў, асацыяцый, канцэрнаў і іншых аб'яднанняў прадпрыемстваў, пераўтварэннем органаў кіравання і гаспадарніцкіх суб'ектаў.

2. Рэгістрацыя новаствараемых саюзаў, асацыяцый, канцэрнаў і іншых аб'яднанняў прадпрыемстваў ажыццяўляецца дзяржаўным органам, на які ўскладзена рэгістрацыя, пры наяўнасці згоды Антыманапольнага камітэта Рэспублікі Беларусь.

3. Для атрымання згоды на стварэнне саюзаў, асацыяцый, канцэрнаў і іншых аб'яднанняў прадпрыемстваў заснавальнікі акрамя дакументаў, прадугледжаных заканадаўствам для дзяржаўнай рэгістрацыі прадпрыемстваў, прадстаўляюць у Антыманапольны камітэт Рэспублікі Беларусь хадайніцтва аб дачы згоды, звесткі аб асноўных відах дзейнасці кожнага з гаспадарніцкіх суб'ектаў, якія аб'ядноўваюцца, іх долі на адпаведным таварным рынку і згодзе на ўваходжанне ў аб'яднанне.

4. Антыманапольны камітэт Рэспублікі Беларусь мае права:

адмовіць у дачы згоды на стварэнне аб'яднанняў, калі гэта можа прывесці да абмежавання канкурэнцыі;

даць згоду на стварэнне аб'яднання нават пры магчымасці ўзнікнення яго дамінуючага становішча, калі гэта можа істотна садзейнічаць насычэнню таварных рынкаў, паляпшэнню спажывецкіх уласцівасцей тавараў і павышэнню іх канкурэнтаздольнасці, у тым ліку на знешнім рынку.

5. Уласнікі або ўпаўнаважаныя імі органы кіравання, якія прымаюць рашэнне аб стварэнні, далучэнні і зліцці саюзаў, асацыяцый, канцэрнаў і іншых аб'яднанняў прадпрыемстваў, а таксама аб пераўтварэнні органаў кіравання і гаспадарніцкіх суб'ектаў ва ўказаныя аб'яднанні, павінны атрымаць згоду або матываваную адмову Антыманапольнага камітэта Рэспублікі Беларусь не пазней 30 дзён з дня атрымання хадайніцтва.

6. Гэты артыкул не прымяняецца пры ліквідацыі прадпрыемстваў, якая ажыццяўляецца па ўступіўшаму ў законную сілу судоваму рашэнню.

**Артыкул 12. Дзяржаўны кантроль за стварэннем холдзінгавых кампаній, набыццём акцый, паёў, долей удзелу ў статутным капітале гаспадарніцкіх суб'ектаў**

1. Антыманапольны камітэт Рэспублікі Беларусь ажыццяўляе кантроль за стварэннем холдзінгавых кампаній, набыццём акцый, паёў, долей у статутным капітале гаспадарніцкіх суб'ектаў з мэтай прадухілення з'яўлення або ўзмацнення дамінуючага становішча гаспадарніцкіх суб'ектаў на таварным рынку.

2. Згода Антыманапольнага камітэта Рэспублікі Беларусь патрабуецца ў выпадку:

стварэння холдзінгавых кампаній;

набыцця гаспадарніцкім суб'ектам, які ахоплівае больш 30 працэнтаў рынку пэўнага тавару, акцый, паёў, долей удзелу ў статутным капітале іншага гаспадарніцкага суб'екта, які ажыццяўляе аперацыі на рынку аналагічнага тавару;

куплі любой юрыдычнай асобай або грамадзянінам кантрольнага пакета акцый, паёў, долей удзелу ў статутным капітале гаспадарніцкага суб'екта, які займае дамінуючае становішча.

**Артыкул 13. Садзейнічанне развіццю таварных рынкаў і канкурэнцыі**

У мэтах садзейнічання развіццю таварных рынкаў і канкурэнцыі Антыманапольны камітэт Рэспублікі Беларусь можа накіроўваць адпаведным органам кіравання прапановы:

аб змяненні сфер прымянення свабодных або рэгулюемых цэн, у тым ліку аб устанаўленні гранічнага ўзроўню цэн або рэнтабельнасці тавараў, што выпрацоўваюцца або рэалізуюцца гаспадарніцкімі суб'ектамі, якія злоўжываюць сваім дамінуючым становішчам;

аб стварэнні паралельных структур у сферах вытворчасці і абарачэння, у тым ліку за кошт дзяржаўных інвестыцый;

аб прыцягненні замежных інвестыцый;

аб фінансаванні мерапрыемстваў па расшырэнню выпуску дэфіцытных тавараў у мэтах устаранення дамінуючага становішча асобных гаспадарніцкіх суб'ектаў і іншых мер эканамічнага пратэкцыяніравання;

аб ліцэнзаванні экспартна-імпартных аперацый;

аб унясенні змяненняў у пераліку відаў дзейнасці, якія падлягаюць ліцэнзаванню.

**Артыкул 14. Грамадскі кантроль за выкананнем антыманапольнага заканадаўства**

1. Саюзы і таварыствы спажыўцоў, іншыя грамадскія аб'яднанні, статуты якіх ставяць сабе за мэту абарону спажыўцоў ад злоўжыванняў гаспадарніцкіх суб'ектаў, якія займаюць дамінуючае становішча, могуць ажыццяўляць грамадскі кантроль за выкананнем антыманапольнага заканадаўства.

2. Грамадскія аб'яднанні, якія ажыццяўляюць грамадскі кантроль за выкананнем антыманапольнага заканадаўства, маюць права:

звяртацца ў Антыманапольны камітэт Рэспублікі Беларусь з заявай аб фактах парушэння антыманапольнага заканадаўства і прапановамі па іх устараненню;

звяртацца ў суд з іскамі ў абарону правоў сваіх членаў і іншых асоб, інтарэсы якіх ушчамляюцца ў выніку парушэнняў антыманапольнага заканадаўства;

праводзіць уласную экспертызу рашэнняў аб стварэнні, зліцці і далучэнні гаспадарніцкіх суб'ектаў на адпаведнасць гэтых дзеянняў патрабаванням антыманапольнага заканадаўства;

інфармаваць грамадскасць аб выніках экспертызы.

## РАЗДЗЕЛ IV. ЗАДАЧЫ, ФУНКЦЫІ І ПАЎНАМОЦТВЫ АНТЫМАНАПОЛЬНАГА КАМІТЭТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Артыкул 15. Задачы і функцыі Антыманапольнага камітэта Рэспублікі Беларусь**

1. Асноўнымі задачамі Антыманапольнага камітэта Рэспублікі Беларусь з'яўляюцца:

распрацоўка і ажыццяўленне сумесна з органамі дзяржаўнага і гаспадарчага кіравання мерапрыемстваў па абмежаванню, спыненню і папярэджанню манапалістычнай дзейнасці;

дзяржаўны кантроль за выкананнем антыманапольнага заканадаўства Рэспублікі Беларусь;

садзейнічанне стварэнню канкурэнтнага асяроддзя і развіццю прадпрымальніцтва.

2. Антыманапольны камітэт Рэспублікі Беларусь у адпаведнасці з ускладзенымі на яго задачамі:

распрацоўвае і накіроўвае ў адпаведным парадку ў органы ўлады і кіравання прапановы па пытаннях удасканалення антыманапольнага заканадаўства і практыкі яго прымянення, заключэнні па праектах законаў і нарматыўных актаў, якія датычацца стварэння спрыяльных умоў для развіцця канкурэнцыі;

сумесна з органамі дзяржаўнага і гаспадарчага кіравання распрацоўвае і ажыццяўляе праграмы і меры па дэманапалізацыі эканомікі, папярэджанню манапольных тэндэнцый, устанаўленню і падтрыманню раўнавагі на рынках;

фарміруе і вядзе Дзяржаўны рэестр гаспадарніцкіх суб'ектаў, якія займаюць дамінуючае становішча на таварных рынках;

кантралюе стварэнне, зліццё, далучэнне, пераўтварэнне, ліквідацыю гаспадарніцкіх суб'ектаў, а таксама набыццё акцый, паёў, долей удзелу ў статутным капітале гаспадарніцкіх суб'ектаў з мэтай прадухілення з'яўлення або ўзмацнення дамінуючага становішча гэтых суб'ектаў на таварных рынках.

**Артыкул 16. Паўнамоцтвы Антыманапольнага камітэта Рэспублікі Беларусь**

1. Антыманапольны камітэт Рэспублікі Беларусь у межах сваёй кампетэнцыі мае права:

даваць органам кіравання абавязковыя для выканання прадпісанні аб адмене або змяненні прынятых імі неправамерных актаў, якія супярэчаць гэтаму Закону;

праводзіць экспертызу і даваць заключэнні па дзяржаўных праграмах, накіраваных на структурныя пераўтварэнні ў эканоміцы, уключаючы праграмы прыватызацыі дзяржаўных аб'ектаў;

даваць гаспадарніцкім суб'ектам абавязковыя для выканання прадпісанні аб спыненні парушэнняў імі гэтага Закона, аб аднаўленні першапачатковага становішча, аб прымусовай рэарганізацыі (разбуйненні, раздзяленні);

накладаць штрафы на службовых асоб гаспадарніцкіх суб'ектаў і органаў кіравання за парушэнні антыманапольнага заканадаўства ў адпаведнасці з Кодэксам Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях;

уносіць прапановы аб узбуджэнні спраў па кампенсацыі страт, адабранню неабгрунтавана атрыманага прыбытку ў выніку манапалістычнай дзейнасці, накладанню штрафаў на гаспадарніцкіх суб'ектаў;

звяртацца ў суд з іскамі і заявамі, а таксама ўдзельнічаць пры разглядзе ў судзе спраў, звязаных з парушэннем антыманапольнага заканадаўства;

накіроўваць у органы пракуратуры матэрыялы для вырашэння пытання аб узбуджэнні крымінальнай справы па прыметах злачынстваў, звязаных з парушэннем антыманапольнага заканадаўства;

запросу ў органаў кіравання і гаспадарніцкіх суб'ектаў, размешчаных на тэрыторыі рэспублікі, інфармацыі для аналізу ўзроўню манапалізацыі таварных рынкаў і прыняцця рашэнняў аб папярэджанні і спыненні манапалістычнай дзейнасці, уключаючы інфармацыю, якая змяшчае камерцыйную тайну;

удзельнічаць у камісіях па прыватызацыі;

даваць адпаведным органам кіравання прапановы згодна з артыкулам 13 гэтага Закона.

2. Службовыя асобы Антыманапольнага камітэта Рэспублікі Беларусь або ўпаўнаважаныя ім іншыя асобы пры выкананні сваіх службовых абавязкаў маюць права доступу ў органы кіравання і гаспадарніцкія суб'екты з мэтай азнаямлення з усімі неабходнымі дакументамі і атрымання копій на бязвыплатнай аснове.

## РАЗДЗЕЛ V. АДКАЗНАСЦЬ ЗА ПАРУШЭННЕ ГЭТАГА ЗАКОНА

**Артыкул 17. Віды прадпісанняў і адказнасці**

1. У выпадку ўчынення гаспадарніцкімі суб'ектамі, органамі кіравання, іх службовымі асобамі дзейнасці, забароненай гэтым Законам, Антыманапольны камітэт Рэспублікі Беларусь прадпісвае:

спыніць парушэнні, аднавіць першапачатковае становішча, скасаваць або змяніць дагавор, выканаць іншыя дзеянні;

заплаціць штраф.

2. Прадпісанні Антыманапольнага камітэта Рэспублікі Беларусь падлягаюць выкананню ва ўстаноўлены ім тэрмін.

3. Штраф накладаецца Антыманапольным камітэтам Рэспублікі Беларусь у адпаведнасці з яго кампетэнцыяй на падставах, прадугледжаных артыкулам 19 гэтага Закона.

4. Прыбытак, незаконна атрыманы гаспадарніцкім суб'ектам, які дзейнічае на рэспубліканскім (мясцовым) рынку, у выніку парушэння артыкулаў 5 і 6 гэтага Закона спаганяецца судом і накіроўваецца ў рэспубліканскі (мясцовы) бюджэт.

5. Пакрыццё страт, нанесеных гаспадарніцкаму суб'екту або грамадзянам у выніку парушэння артыкулаў 5, 6 і 7 гэтага Закона, ажыццяўляецца ў парадку, устаноўленым дзеючым заканадаўствам.

**Артыкул 18. Адказнасць, звязаная з выкананнем функцый Антыманапольнага камітэта Рэспублікі Беларусь**

1. Гаспадарніцкія суб'екты, органы кіравання, іх службовыя асобы, якія не прадаставілі па запросу Антыманапольнага камітэта Рэспублікі Беларусь інфармацыю (дакументы, пісьмовыя і вусныя тлумачэнні), неабходную для ажыццяўлення ім функцый, прадугледжаных гэтым Законам, а таксама якія пярэчаць сваімі дзеяннямі ажыццяўленню ўказаных функцый і не выконваюць яго ўказанні, нясуць адказнасць, устаноўленую гэтым Законам і іншымі актамі заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

2. Антыманапольны камітэт Рэспублікі Беларусь абавязаны захоўваць дзяржаўную і камерцыйную тайну гаспадарніцкага суб'екта.

3. Дзяржава гарантуе гаспадарніцкім суб'ектам пакрыццё страт (уключаючы ўпушчаную выгаду), прычыненых неабгрунтаванымі дзеяннямі або перавышэннем паўнамоцтваў Антыманапольнага камітэта Рэспублікі Беларусь і яго службовымі асобамі, выдаваннем камерцыйнай тайны.

Службовыя асобы Антыманапольнага камітэта Рэспублікі Беларусь, упаўнаважаныя ім іншыя асобы нясуць адказнасць за парушэнне гэтага Закона ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам.

**Артыкул 19. Штрафы за парушэнне антыманапольнага заканадаўства**

1. За ўхіленне ад выканання або несвоечасовае выкананне прадпісанняў Антыманапольнага камітэта Рэспублікі Беларусь па рашэнню суда з гаспадарніцкіх суб'ектаў спаганяецца штраф у памеры да 10 працэнтаў даходу за папярэдні год.

2. Антыманапольным камітэтам Рэспублікі Беларусь у адпаведнасці з Кодэксам Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях могуць накладацца штрафы на службовых асоб гаспадарніцкіх суб'ектаў і органаў кіравання за наступныя парушэнні:

ухіленне ад выканання, неналежнае, несвоечасовае выкананне прадпісанняў Антыманапольнага камітэта Рэспублікі Беларусь;

непрадстаўленне Антыманапольнаму камітэту Рэспублікі Беларусь інфармацыі або прадастаўленне заведама недакладнай (ілжывай) інфармацыі.

## РАЗДЗЕЛ VI. ПАРАДАК ПРЫНЯЦЦЯ І АБСКАРДЖАННЯ РАШЭННЯЎ АНТЫМАНАПОЛЬНАГА КАМІТЭТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Артыкул 20. Падставы для разгляду спраў аб парушэнні Закона**

1. Антыманапольны камітэт Рэспублікі Беларусь разглядае справы аб парушэнні гэтага Закона і прымае па іх рашэнні ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Справы разглядаюцца на падставе заяў гаспадарніцкіх суб'ектаў, органаў улады і кіравання, грамадскіх аб'яднанняў, матэрыялаў пракуратуры, суда, а таксама па ініцыятыве Антыманапольнага камітэта Рэспублікі Беларусь.

2. Заявы падаюцца ў Антыманапольны камітэт Рэспублікі Беларусь у пісьмовай форме з дадаткам дакументаў, якія пацвярджаюць факты парушэння антыманапольнага заканадаўства.

3. Парадак разгляду спраў вызначаецца дзеючым заканадаўствам.

**Артыкул 21. Абскарджанне прадпісанняў і рашэнняў Антыманапольнага камітэта Рэспублікі Беларусь**

Органы кіравання, гаспадарніцкія суб'екты, службовыя асобы маюць права звярнуцца ў суд з заявай аб прызнанні несапраўднымі поўнасцю або часткова прадпісанняў Антыманапольнага камітэта Рэспублікі Беларусь, а таксама аб адмене або змяненні рашэнняў аб накладанні штрафу. Абскарджанне ў вызначаным парадку рашэнняў Антыманапольнага камітэта Рэспублікі Беларусь прыпыняе іх выкананне.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С.ШУШКЕВІЧ.**

10 снежня 1992 г. г.Мінск. N 2034-XII

*Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

# Аб парадку ўвядзення ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь "Аб процідзеянні манапалістычнай дзейнасці і развіцці канкурэнцыі"

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Увесці ў дзеянне Закон Рэспублікі Беларусь "Аб процідзеянні манапалістычнай дзейнасці і развіцці канкурэнцыі" з 1 сакавіка 1993 года.

Абзацы трэці і чацвёрты пункта 1 артыкула 7 уступаюць у сілу пасля спынення дзеяння Закона Рэспублікі Беларусь "Аб часовых мерах па абароне спажывецкага рынку Рэспублікі Беларусь".

2. Да прывядзення заканадаўства Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з указаным Законам акты дзеючага заканадаўства Рэспублікі Беларусь прымяняюцца ў частцы, у якой яны не супярэчаць гэтаму Закону.

3. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

3.1. Прадставіць у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь да 1 лютага 1993 года праекты заканадаўчых актаў аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у дзеючыя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь у адпаведнасці з указаным Законам.

3.2. Прывесці да 1 сакавіка 1993 года ў адпаведнасць з указаным Законам рашэнні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

3.3. Забяспечыць да 1 лютага 1993 года перагляд і адмену міністэрствамі, дзяржаўнымі камітэтамі і ведамствамі Рэспублікі Беларусь нарматыўных актаў, якія супярэчаць указанаму Закону.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С.ШУШКЕВІЧ.**

10 снежня 1992 г.
г.Мінск.
N 2035-XII

*Закон Рэспублікі Беларусь*

# Аб прызнанні грамадзянамі Рэспублікі Беларусь асоб, на якіх распаўсюджваецца статус ваеннаслужачых, і членаў іх сем'яў

У сувязі з прыняццем ваеннай прысягі на вернасць народу Рэспублікі Беларусь Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Прызнаць грамадзянамі Рэспублікі Беларусь асоб, на якіх распаўсюджваецца статус ваеннаслужачых, што прыбылі ў рэспубліку для праходжання службы пасля ўступлення ў сілу Закона "Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь", якія выкажуць жаданне быць грамадзянамі Рэспублікі Беларусь і прыняць прысягу на вернасць народу Рэспублікі Беларусь, а таксама членаў іх сем'яў па іх жаданню пасля пераезду ў рэспубліку.

Асабістыя заявы асоб, на якіх распаўсюджваецца статус ваеннаслужачых, і членаў іх сем'яў аб прызнанні іх грамадзянамі Рэспублікі Беларусь падаюцца для ўліку ў Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь праз адпаведныя міністэрствы і ведамствы Рэспублікі Беларусь.

Пытанні, не ўрэгуляваныя гэтым Законам, вырашаюцца ў адпаведнасці з Законам "Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь".

Гэты Закон дзейнічае да 31 снежня 1993 года.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С.ШУШКЕВІЧ.**

22 снежня 1992 г.
г. Мінск.
N 2059-XII

*Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

# Аб увядзенні ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь "Аб прызнанні грамадзянамі Рэспублікі Беларусь асоб, на якіх распаўсюджваецца статус ваеннаслужачых, і членаў іх сем'яў"

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Увесці ў дзеянне Закон Рэспублікі Беларусь "Аб прызнанні грамадзянамі Рэспублікі Беларусь асоб, на якіх распаўсюджваецца статус ваеннаслужачых, і членаў іх сем'яў" з моманту яго прыняцця.

2. Даручыць Прэзідыуму Вярхоўнага Савета, Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь прааналізаваць ход выканання ўказанага Закона, прыняцце прысягі на вернасць народу Рэспублікі Беларусь і праінфармаваць аб гэтым Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь у IV квартале 1993 года.

Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь прывесці ў адпаведнасць з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб прызнанні грамадзянамі Рэспублікі Беларусь асоб, на якіх распаўсюджваецца статус ваеннаслужачых, і членаў іх сем'яў" рашэнні ўрада Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С.ШУШКЕВІЧ.**

22 снежня 1992 г.
г. Мінск.
N 2060-XII

*Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

# Аб прысваенні Антонаву І.П. ганаровага звання "Народны ўрач Беларусі"

За вялікія заслугі ў развіцці медыцынскай навукі, высокае прафесійнае майстэрства і самаадданасць у выкананні ўрачэбнага абавязку прысвоіць дырэктару Навукова-даследчага інстытута неўралогіі, нейрахірургіі, фізіятэрапіі і курарталогіі Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь **АНТОНАВУ** Ігнацію Пятровічу ганаровае званне "Народны ўрач Беларусі".

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С.ШУШКЕВІЧ.**

28 снежня 1992 г.
г. Мінск.
N 2080-XII.

*Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

# Аб узнагароджанні Грамыкі В. А. Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

За значны ўклад у развіццё беларускага выяўленчага мастацтва ўзнагародзіць мастака-жывапісца **ГРАМЫКУ** Віктара Аляксандравіча Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С. ШУШКЕВІЧ.**

28 снежня 1992 г.
г. Мінск.
N 2079-XII

НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

Рэкламнае бюро — 29-34-05, 27-33-96; факс — (0172) 27-37-63.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор даных, асабістых імён, геаграфічных назваў і іншай інфармацыі, а таксама за тое, калі ў матэрыялах змешчаны даныя, якія не падлягаюць адкрытай публікацыі.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункту гледжання аўтара. Лісты чытачоў друкуюцца на мове арыгінала. Рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя "Народнай газеты" прымае заказы на змяшчэнне аб'яў, рэкламы.

Рэдакцыйныя тэлефоны: грамадская прыёмная — 29-60-86; прыёмная галоўнага рэдактара — 29-60-08; намеснікі галоўнага рэдактара — 29-69-04, 29-64-21, 27-22-16; юрыдычнае бюро — 29-69-68; карэктура — 29-62-12; стыльрэдактар — 29-64-04; мастак — 20-62-43; бухгалтэрыя — 29-60-21, 29-67-23; бізнес-бюро — 29-65-50.

Аглядальнікі па пытаннях дзейнасці: парламента рэспублікі, грамадска-палітычных арганізацый і рухаў — 29-66-04; урада рэспублікі — 29-68-12; мясцовых Саветаў — 29-61-56; дзяржаўных органаў — 29-64-78; аграрнай палітыкі — 29-60-42; экалогіі, ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай трагедыі і НТП — 20-41-82; сацыяльнай пераарыентацыі эканомікі — 20-52-65;сацыяльнай пераарыентацыі сферы абслугоўвання — 29-69-68; сацыяльнага вывучэння грамадскай думкі і аналізу пошты — 29-68-03; культуры і нацыянальнага адраджэння — 29-61-56; маралі і права — 29-69-87, 29-61-76; сацыяльнай абароны асобы — 29-69-87; аператыўных падзей, фізкультуры і спорту — 20-83-97; палітычныя каментатар — 29-65-01.

Тэлефоны карэспандэнцкіх пунктаў: у Брэсце —42-49-35; у Віцебску — 5-12-12; у Гомелі — 55-81-05; у Гродне — 45-35-61; у Магілёве — 26-35-38; у Маскве — 365-16-44.

**Адрас рэдакцыі: 220010, Мінск, Дом урада.**

Індэкс 63868

Выходзіць штодзённа, акрамя нядзелі і панядзелка. 250 разоў у год.
Тыраж 594.665 экз.
Падпісана ў друк у 19.10.
Газета аддрукавана ў друкарні выдавецтва"Беларускі Дом друку".
Спосаб друку — афсетны, фармат А-2
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

**Галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**